**ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# Настаўніцкая газета

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

№ 138 (5320)
Субота, 1 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

Дзяржаўнае пытанне

## Абавязковае размеркаванне ці беспрацоўе?

***Рыхтуючы змяненні і дапаўненні ва ўжо дзеючы Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", дэпутаты Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе сутыкнуліся з адной цяжкасцю, якая тычыцца размеркавання выпускнікоў устаноў прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі.***

Справа ў тым, што на сённяшні дзень сярод насельніцтва, у тым ліку і сярод дэпутатаў, існуюць два меркаванні на гэты конт, прычым дыяметральна процілеглыя. Адно з іх – даць права выпускнікам на свабоднае працаўладкаванне, гэта значыць адмяніць дзеючыя правілы абавязковага размеркавання; другое – захаваць існуючае становішча ў гэтым пытанні. Цікава, што прыхільнікі абодвух лагераў прыводзяць важкія абгрунтаванні сваіх пазіцый.

Так, тыя, хто выступае за адмену размеркавання, лічаць, што гэтая норма ўжо састарэла і з'яўляецца дыскрымінацыйнай у адносінах да маладых людзей, бо многія з іх накіроўваюцца на працу ў сельскія школы раёнаў, забруджаных у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Там іх чакае маленькі заробак, сацыяльная неўладкаванасць, адсутнасць жылля і гэтак далей. Калі ж размеркаванне адмяніць, дык дзяржава будзе вымушаная шукаць новыя эканамічныя рычагі для таго, каб зацікавіць маладых спецыялістаў паехаць на працу менавіта туды.

Як бачым, інтарэсы выпускніка ў атрыманні як мага большых матэрыяльных выгод, прычым адразу, выстаўляюцца на першы план, а інтарэсы дзяржавы зусім ігнаруюцца. Між тым, дзяржава траціць сродкі з бюджэту на навучанне спецыяліста, таму мае правы на "вяртанне доўгу" хаця б у выглядзе двухгадовай адпрацоўкі па спецыяльнасці. А ў адказ чуем: "З нашых бацькоў і з нас збіраецца падатак. І ніякага доўгу ў нас няма".

Не ўлічваецца тое, што на перыферыі таксама жывуць людзі, якім трэба і медыцынская дапамога, і дзяцей іхніх нехта ж вучыць, што гэтыя людзі таксама плацяць падаткі ў бюджэт і разлічваюць на прыезд да іх неабходных спецыялістаў. Цікава, што пераважная большасць прыхільнікаў адмены абавязковага размеркавання прадстаўлена людзьмі маладога ўзросту, выхадцамі з даволі забяспечаных сем'яў, і знаходзіцца ў нашай сталіцы, дзе, як вядома, намнога болей шанцаў для самастойнага, выгаднага працаўладкавання.

Процілеглую пазіцыю займаюць тыя, хто лічыць, што адукацыйная сфера павінна рыхтаваць высокакваліфікаваныя кадры для развіцця эканомікі, здольныя адстойваць інтарэсы Радзімы ва ўсіх галінах жыццядзейнасці нашага грамадства, а адукацыю разумеюць як наш уклад у

> **Атрыманая адукацыя не азначае аўтаматычны доступ да дабрабыту і вечнага свята. Патрэбны яшчэ гарантыі дзяржавы ў запатрабаванасці гэтай адукацыі. Бо ўжо зараз юнакі і дзяўчаты, нягледзячы на атрыманы прэстыжны дыплом, усё часцей папаўняюць рады беспрацоўных.**

будучыню, перш за ўсё выгадны самой дзяржаве. Яны выказваюцца за такую сістэму адукацыі, якая гарантуе ўсім права бясплатнага навучання і месца працы пасля яго заканчэння. Апошняе для іх з'яўляецца вельмі важным у сувязі з існуючым у краіне беспрацоўем. Яны разумеюць, што атрыманая адукацыя не азначае аўтаматычны доступ да дабрабыту і вечнага свята. Патрэбны яшчэ гарантыі дзяржавы ў запатрабаванасці гэтай адукацыі. Бо ўжо зараз юнакі і дзяўчаты, нягледзячы на атрыманы прэстыжны дыплом, усё часцей папаўняюць рады беспрацоўных. Напрыклад, не дэфіцытнымі на сённяшні дзень з'яўляюцца спецыяльнасці: эканаміст, юрыст, тавазнаўца, настаўнік, цырульнік, абутнік, мантажнік радыёэлектроннай апаратуры. Спіс, канешне, значна даўжэйшы.

Усяго толькі год я з'яўляюся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, але і за гэты кароткі час да мяне было шмат зваротаў, у якіх людзі са слязамі на вачах прасілі дапамагчы знайсці работу сваім родным, якія скончылі навучальную ўстанову і не былі размеркаваны па спецыяльнасці. Уявіце сябе ў становішчы звычайных, небагатых бацькоў, рабочых, сялян, якія, адрываючы часам апошняе, вучылі сваіх дзяцей з надзеяй на іх лепшы лёс і ўрэшце засталіся ні з чым. Менавіта гэтая катэгорыя насельніцтва выступае за размеркаванне, бо добра ведае, што калі яго не будзе, то, нягледзячы на талент і здольнасці, лепшыя месцы на надзвычай непрадказальным рынку працы будуць заняты прадстаўнікамі так званых "новых беларусаў".

Таму дэпутаты, члены нашай Камісіі, прыйшлі да высновы, што абавязковаму дзяржаўнаму размеркаванню ўсё ж павінны падвяргацца выпускнікі, якія вучыліся ў навучальнай установе за кошт бюджэтных сродкаў. У выніку прапанавалі свой варыянт запісу ў праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі" гэтай прававой нормы. Ён гучыць так: "Выпускнікі, якія навучаліся за кошт сродкаў рэспубліканскага і (або) мясцовых бюджэтаў ва ўстановах, што забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, размяркоўваюцца ў парадку, які ўстанаўліваецца Урадам Рэспублікі Беларусь". Тым самым дзяржава гарантуе, з аднаго боку, іх працаўладкаванне, а з другога – забяспечвае сябе неабходнай колькасцю патрэбных спецыялістаў. Бо нават у дзеючым Палажэнні аб размеркаванні выпускнікоў дзяржаўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў сказана, што калі Камісія па размеркаванню не ў стане даць працоўнае месца, то яна накіроўвае выпускніка (з яго згоды) на другое прадпрыемства праз іншае міністэрства. Да таго ж, студэнты-выдатнікі, ідучы ў спісах першымі, маюць перавагі ў выбары працоўных месцаў, чым забяспечваецца зацікаўленасць у атрыманні добрых ведаў. І ўсё ж Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь разам з іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі неабходна як мага хутчэй правесці падлік колькасці спецыялістаў, у якіх будзе мець патрэбу краіна як у бліжэйшы час, так і ў перспектыве. Перагледзець структуру спецыяльнасцей навучальных устаноў дзеля таго, каб не траціць марна вялікія дзяржаўныя сродкі і не калечыць лёсы маладых людзей.

Што ж тычыцца астатніх катэгорый выпускнікоў, дык пра ўласны лёс у першую чаргу трэба думаць ім самім пры выбары навучальнай установы ці факультэта, асабліва ў недзяржаўных інстытутах, і больш уважліва сачыць за сітуацыяй, якая складваецца на рынку працы. У любым выпадку выбар ёсць: не хочаш размеркавання – вучыся за грошы.

У сувязі з размеркаваннем існуе яшчэ адна праблема, якая пакуль што не знайшла свайго адлюстравання ў заканадаўстве, бо патрабуе вывучэння і абгрунтавання дзеянняў. Я маю на ўвазе той факт, што шэраг таленавітых маладых спецыялістаў выязджае за мяжу і працуе на эканоміку замежных краін. Зноў жа выказваюцца два меркаванні на гэты конт. З аднаго боку гэта добра, бо сведчыць аб высокай якасці адукацыі ў нашай рэспубліцы, дае надзею на тое, што з тымі, хто выехаў, прасцей будзе наладзіць у перспектыве кантакты па супрацоўніцтве ў разнастайных сферах жыцця, разлічваць на іх дапамогу нашай краіне. Але гэта, як кажуць, пяцьдзесят на пяцьдзесят, бо пакуль цяжка прывесці прыклады такой дзейснай дапамогі.

З другога боку, усе грамадзяне не вельмі багатай Беларусі пла-

> **Дэпутаты, члены нашай Камісіі, прыйшлі да высновы, што абавязковаму дзяржаўнаму размеркаванню ўсё ж павінны падвяргацца выпускнікі, якія вучыліся ў навучальнай установе за кошт бюджэтных сродкаў.**

цяць падаткі на тое, каб вывучыць, выхаваць чалавека, а ён, выехаўшы за межы дзяржавы, мацуе кадры, павялічвае эканамічны патэнцыял багатых замежных краін. Дзе ж тут сэнс і справядлівасць? Дадам, што там адукацыя ў эканоміцы займае адно з вядучых месцаў. Яна ўжо даўно стала дарагім і самым каштоўным таварам, бо ўстойлівае развіццё краін вызначаецца не толькі здабытымі нафтай, газам, металамі і інш. Дык да якой пары мы будзем рабіць такія шыкоўныя падарункі, дакуль будзем спрыяць стаўленню маладых людзей да Беларусі як да перавалачнага пункта на шляху да шчасця, заможнасці і камфортнага жыцця?

Асабіста я схіляюся да той думкі, што мы павінны атрымліваць ад замежных фірм, краін годную кампенсацыю за тавар (даруйце за гэтае слова, але ж інакш не скажаш), у якасці якога выступаюць нашы спецыялісты-эмігранты. Аднак гэта ні ў якім разе не азначае, што мы павінны стрымліваць выезд на Захад. Хутчэй, наадварот, трэба дапамагаць тым, хто жадаў бы заключыць кантракты з замежнымі фірмамі, арганізоўваць выезд, але з матэрыяльнай выгадай для Рэспублікі Беларусь. Хтосьці скажа, што дадзенае выказванне вельмі напамінае прапанову стварыць дзяржаўную сістэму гандлю людзьмі, але ж гэта зусім іншае, бо за спецыялістам застаецца свабода выбару. Ды і ніхто ж не называе гандлем рабамі распаўсюджаныя выпадкі ад'езду футбалістаў, плыўцоў, тэнісістаў за межы краіны з абавязковай матэрыяльнай кампенсацыяй свайму клубу.

Як бачым, у любым выпадку ёсць праблема для роздуму, для прыняцця дзяржавай неадкладных мер. Прычым не толькі да знешніх эмігрантаў, але і да ўнутраных. Маю на ўвазе тое, што маладыя, таленавітыя спецыялісты, якія вучыліся за бюджэтны кошт, пераманьваюцца ў прыватныя структуры таксама без усялякай кампенсацыі дзяржаве з боку прадпрымальнікаў. Па сутнасці адбываецца беспрацэнтнае субсідзіраванне сферы прадпрымальніцтва.

У будучым у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь будзе ўносіцца праект Закона "Аб вышэйшай адукацыі". Калі нашай Камісіі пашчасціць працаваць над ім, то, думаю, што і гэтае пытанне знойдзе адпаведнае адлюстраванне. Час яшчэ ёсць. Таму запрашаю ўсіх, каму не абыякавы лёс краіны, прыняць актыўны ўдзел у абмеркаванні пастаўленай праблемы.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ,**
**намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.**



НА ЗДЫМКУ: выхавальніца Макшанскага дзіцячага сада Сенненскага раёна Тамара Юр'еўна Лосева, дэлегат II з'езда настаўнікаў рэспублікі. У садку гэтым каля 50 хлопчыкаў і дзяўчынак.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

3 снежня - Дзень інвалідаў

## Клопат і боль дзяржавы

***Важнай умовай пабудовы дзяржавы з сацыяльна-арыентаванай рынкавай эканомікай з'яўляецца забеспячэнне сацыяльнай справядлівасці ў атрыманні адукацыі. Дзяржава шмат увагі надае ўтрыманню, выхаванню і адукацыі дзецяй, здароўе якіх у сілу розных абставін парушана і паслаблена. У нашай рэспубліцы налічваецца больш за 113 тысяч дзяцей-інвалідаў і асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Калі ўявіць гэту лічбу, то паўстае буйны горад, насельніцтва якога чакае тэрміновай дапамогі і пастаяннага клопату.***

З 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў сістэме адукацыі кардынальна мяняюцца падыходы ў забеспячэнні права кожнага дзіцяці на атрыманне адукацыі па месцы жыхарства. Развіваюцца разнастайныя формы сумеснага навучання і выхавання дзяцей з асаблівасцямі развіцця і іх здаровых аднагодкаў. Гэта дазволіла пераадолець стэрэатыпнасць, стандартнасць у адносінах да такіх дзяцей. Такім чынам, здымаюцца рамкі ізаляванасці, абмежаванасці іх агульнага развіцця. У ранейшых методыках, калі дзеці былі сабраны ў спецыяльных школах-інтэрнатах, роля бацькоў у выхаванні была пасіўнай, незаслужана зніжанай. Такім чынам, паступова мяняецца сітуацыя – грамадства пераглядае свае адносіны да людзей з абмежаванымі магчымасцямі: на змену элементарнаму шкадаванню чалавека прыходзіць раўнапраўнае суіснаванне.

У мінулым навучальным годзе ў рэспубліцы налічвалася 3030 класаў інтэграванага навучання. Трэба падкрэсліць, што інтэграванае навучанне не з'яўляецца абавязковым. Яно арганізуецца па жаданні бацькоў і зыходзячы з інтарэсаў дзіцяці. Абавязковым пры гэтым з'яўляецца стварэнне неабходных умоў: наяўнасць настаўніка-дэфектолага, які працуе разам з настаўнікам агульнаадукацыйнай школы, стварэнне ў школе атмасферы добразычлівасці, узаемаразумення.

Знаходжанне дзяцей-інвалідаў у навучальнай установе мае і зваротны выхаваўчы эфект – вучыць іх здаровых аднагодкаў спачуванню, міласэрнасці, чалавекалюбству.

Інтэграцыя ў навучанні не супрацьпастаўляецца спецыяльным установам, а выступае як адна з альтэрнатыўных форм атрымання адукацыі, яна зближае дзве адукацыйныя сістэмы – агульную і спецыяльную.

Атрымалі распаўсюджанне цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, якія забяспечваюць атрыманне педагагічнай дапамогі і аказанне неабходных дадатковых паслуг дзецям з парушэннямі ў развіцці. На сёння ў рэспубліцы функцыянуе 91 такі цэнтр. На базе гэтых устаноў адкрыты класы, у якіх навучаецца амаль 900 дзяцей з цяжкімі шматлікімі парушэннямі развіцця, навучанне якіх раней лічылася немагчымым.

У сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі навучаецца звыш 1300 інвалідаў і асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Прыём інвалідаў у ВНУ павялічыўся з 42 чалавек у 1993 да 3999 чалавек у 2000 годзе.

З 1996 года ў рэспубліцы пачалося выданне нацыянальных падручнікаў для дзяцей з рознымі парушэннямі развіцця. Асвоены выпуск падручнікаў шрыфтам Брайля для сляпых дзяцей, пачалося выданне вучэбнай літаратуры для дзяцей з цяжкімі парушэннямі зроку. За апошні час дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця атрымалі 257 айчынных падручнікаў і 81 праграму, 37 вучэбна-метадычных дапаможнікаў. У 2000 годзе выдадзены першы ў гісторыі Беларусі буквар для сляпых дзяцей.

Пачынаючы з 2001 года не бярэцца плата за карыстанне падручнікамі з бацькоў або асоб, што іх замяняюць, дзеці якіх навучаюцца ў спецыяльных агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах, школах, класах інтэграванага навучання, санаторных школах-інтэрнатах.

Ва ўстановах сістэмы спецыяльнай адукацыі захавана 3-4-разовае харчаванне дзяцей. З 2000 года ўведзена двухразовае бясплатнае харчаванне дзяцей-інвалідаў, што навучаюцца ў цэнтрах карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

На сёння створаны рэальныя ўмовы для аздараўлення дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. У 2000 г. аздараўленчы курс прайшлі больш за 6 тысяч такіх дзяцей.

Зараз працягваецца фарміраванне сістэмы псіхолага-педагагічнай і сацыяльна-педагагічнай падтрымкі, завяршаецца стварэнне сеткі спецыяльных устаноў для аказання дапамогі асобам з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і пашыраецца аказанне ім карэкцыйна-адукацыйных паслуг.

**Віктар ІЎЧАНКАЎ,**
**прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

## Увага: конкурс!

## Прыз — каляровы тэлевізар

*Рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" аб'яўляе конкурс для сваіх індывідуальных падпісчыкаў.*

*Умовы конкурсу:*

*1. Удзельніку конкурсу неабходна даслаць у рэдакцыю пісьмо, у якім назваць магчымы падпісны тыраж на "Настаўніцкую газету" на 1 студзеня 2002 года. Тыраж называецца прапіснымі лічбамі.*

*2. У пісьме ўказваецца хатні адрас удзельніка, нумар хатняга або службовага тэлефона (калі ён ёсць).*

*Да пісьма прыкладаецца копія падпіснога абанемента (ксеракопія або напісаная ад рукі).*

*3. Пераможцам конкурсу стане той удзельнік, які дакладна назаве лічбу тыражу. У выпадку, калі дакладная лічба не будзе названа, пераможцам становіцца той, хто назаве лічбу, найбольш прыбліжаную да рэальнай. Калі ж прэтэндэнтаў будзе некалькі, то пераможцу вызначыць жараб'ёўка, праведзеная журы конкурсу.*

*4. Пры атрыманні прыза пераможцу неабходна прад'явіць рэдакцыі арыгінал падпіснога абанемента.*

*5. Удзельнічаць у конкурсе маюць права чытачы, якія афармілі падпіску на "Настаўніцкую газету" не менш чым на тры месяцы ў першым паўгоддзі 2002 года.*

*6. Пісьмы аб удзеле ў конкурсе прымаюцца па пошце або непасрэдна рэдакцыяй не пазней 21 снежня 2001 года па адрасе: 220034, Мінск, вул. Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" з паметкай "На конкурс".*

*7. Пераможцу ўстанаўліваецца прыз - каляровы тэлевізар з экранам па дыяганалі - 54 см.*

*8. Вынікі конкурсу падводзяцца журы не пазней 20 студзеня 2002 года.*

*Для прыкладу: падпісны тыраж "Настаўніцкай газеты" на IV квартал 2001 г. склаў 27.212 экзэмпляраў.*

*Даведкі па тэл.: 236-40-63, 236-53-22, 236-91-42.*

Паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі

## Што, дзе, калі

**1-2 снежня** каманды Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі будуць прымаць удзел у Рэспубліканскім турніры па інтэлектуальных гульнях "Белавежская зіма", які адбудзецца ў Брэсце.

З **1 па 18 снежня** народны хор "Раніца" Рэспубліканскай вучэбна-метадычнай установы "Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" прыме ўдзел у Міжнародным харавым фестывалі ў г. Вена (Аўстрыя).

**2 снежня** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва (вул. Макаёнка, 8) будзе працаваць выстава "Свет маіх захапленняў".

**3 снежня** дзіцячыя творчыя калектывы Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі прымуць удзел у свяце, прысвечаным Дню Міласэрнасці, якое праводзіцца ў школе-інтэрнаце № 3 Мінска.

**4 снежня** Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" ладзіць тэатралізаванае эстрадна-цыркавое прадстаўленне "Вясёлы экспрэс" у Адаптацыйна-аздараўленчай установе "Востраў надзеі".

**4-5 снежня** на базе Полацкага педагагічнага каледжа імя Ф.Скарыны адбудзецца рэспубліканскі семінар-практыкум "Прафесійная падрыхтоўка настаўнікаў пачатковых класаў ва ўмовах рэфармавання агульнаадукацыйнай школы і рэалізацыі адукацыйных стандартаў".

**4-8 снежня** ў Рэспубліцы Польшча адбудзецца пасяджэнне сумеснай беларуска-польскай камісіі па справах беларускай меншасці ў Рэспубліцы Польшча і польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь.

**5 снежня** ў Рэспубліканскім цэнтры тэхнічнай творчасці навучэнцаў (вул. Макаёнка, 12) будзе працаваць лекторый "Ты і закон".

**5-6 снежня** на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта праводзіцца III міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Навуковыя, сацыяльныя і культурныя праблемы студэнцкай моладзі" і XII рэспубліканскі навукова-метадычны семінар "Вопыт і праблемы арганізацыі навукова-даследчай работы студэнтаў".

(*Аб правядзенні астатніх мерапрыемстваў у снежні чытайце ў наступным нумары.*)



# "Двойкі" - не яго адзнакі

***Маё знаёмства з Бараўлянскай гімназіяй пачалося не з вучэбнага працэсу і не з матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння гэтай установы, а з больш галоўнага - яе настаўнікаў, а дакладней - настаўніка.***

Іван Афанасьевіч Будай - заслужаны настаўнік рэспублікі Беларусь. Зараз яму 77 гадоў, з якіх 60 былі аддадзены педагагічнай дзейнасці. Гэты чалавек - прафесіянал сваёй справы, пра такіх гавораць - настаўнік ад Бога. Іван Афанасьевіч - гісторык, ён заўсёды быў прыхільнікам новых педагагічных тэхналогій, у цэнтры якіх заўжды стаяў вучань як асоба. Вельмі цікавым і нават неверагодным з'яўляецца той факт, што Іван Афанасьевіч Будай ніколі не ставіў нездавальняючых адзнак. Ён увесь час шукаў магчымасць, каб вучань мог выправіць "сваё становішча". Вельмі часта на вечарынах сустрэч былыя выпускнікі ўспамінаюць, што Іван Афанасьевіч на любое пытанне знаходзіў адказ.

Яго любіць і шануе не толькі педагагічны калектыў гімназіі, а і вучнёўскі. Калі мы ішлі па калідоры, Іван Афанасьевіч не паспяваў адказваць на вучнёўскія прывітанні, што сыпаліся з усіх бакоў. З 1985 года пры школе працуе музей баявой славы. Яго арганізатарам і кіраўніком з'яўляецца І.А.Будай. Выхаванне патрыятызму і грамадзянскасці - асноўная ідэя стварэння такога музея. Вучні гімназіі ў Бараўлянах могуць лічыцца сапраўднымі грамадзянамі, патрыётамі сваёй краіны, бо ведаюць і паважаюць гісторыю сваёй мясцовасці. У музеі сабраны дакументы, фотаздымкі, узнагароды, зброя часоў Вялікай Айчыннай вайны. Ушанаваны імёны славутых землякоў. Сам Іван Афанасьевіч з'яўляецца ветэранам ВАВ і таму ведае пра яе не па чутках і можа шмат чаго расказаць.

Пры музеі створана пошукавая група. Дзеці самі прымаюць актыўны ўдзел у пошуках дакументаў, архіўных матэрыялаў, захаванняў загінулых. Да таго ж, з сёмага класа І.А.Будай пачынае рыхтаваць экскурсаводаў. І ўжо ў 10-11-м яны становяцца сапраўднымі прафесіяналамі. Акрамя выхаваўчай функцыі, музей нясе яшчэ і адукацыйную. Валодаць аратарскімі здольнасцямі, умець зацікавіць - рэч вельмі неабходная ў сучасным грамадстве, таму выхаванцам Івана Афанасьевіча можна толькі пазайздросціць.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКУ: І.А.Будай праводзіць экскурсію.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



Сярэдняя школа №1 Гарадзеі - адна з лепшых і вядучых у Нясвіжскім раёне. Іван Сцяпанавіч Дараховіч, загадчык раённага аддзела адукацыі, называе педагагічны калектыў сярэдняй школы №1 камандай аднадумцаў, творцаў, падзвіжнікаў-эксперыментатараў.

Кожны дзень дырэктар школы Людміла Дзмітрыеўна Шынгель пачынае, раючыся са сваімі намеснікамі Тамарай Іванаўнай Бабко, Алай Іванаўнай Бабко, Інай Аляксандраўнай Вазнічка.

"Ні дня без навацый, без клопату аб вучнях" - такі дэвіз дзейнасці каманды Шынгель. Можа таму школьнікі называюць школу домам радасці, дабрыні, міласэрнасці. А паказчыкам якасці работы педагагічнага калектыву з'яўляецца той факт, што выпускнікі сярэдняй школы №1 Гарадзеі да 100 працэнтаў паступаюць у ВНУ, штогод удзельнічаюць і перамагаюць на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**

НА ЗДЫМКУ: дырэктар школы Людміла Дзмітрыеўна Шынгель са сваімі намеснікамі.

**Фота аўтара.**

# Студэнты не памыліліся...

***У педагагічным поспеху амаль усё вызначае маральны стан душы настаўніка. Калі асоба педагога нагадвае патухлы маяк, то якімі б ведамі настаўнік ні быў узброены, ён нічога не дасягне. Думаю, што ў жыцці кожнага чалавека былі настаўнікі, якія саграваюць душы сваіх вучняў.***

Мне вельмі пашанцавала ў тым, што я працую ў калектыве, дзе ёсць такія педагогі. Аргументую наступным. У пачатку года сацыяльна-псіхалагічная служба Полацкага лясного тэхнікума правяла даследаванне камунікатыўнай культуры педагогаў (вачамі навучэнцаў). Настаўнікам часта даводзіцца ацэньваць поспехі сваіх вучняў, а вось адваротная сітуацыя сустракаецца рэдка.

У ходзе даследавання навучэнцам прапаноўвалася па 9-бальнай шкале ацаніць камунікатыўную культуру педагогаў па 12 крытэрыях.

Падвядзенне вынікаў даследавання прадэманстравала пераважна станоўчую ацэнку камунікатыўнай культуры педагогаў. Два выкладчыкі атрымалі максімальную колькасць балаў – 9. Гэта дырэктар тэхнікума і выкладчык тэхналогіі лесавырошчвання Валерый Галяш і куратар 21-й групы і выкладчык матэматыкі Алег Пазнякоў. Яны валодаюць высокай камунікатыўнай культурай, прафесійнай кампетэнтнасцю, арганізаванасцю, глыбокім інтэлектам, эмацыянальнасцю. Дасягнуўшы вяршынь педагагічнага майстэрства, яны пастаянна ўзбагачаюць свой вопыт, пастаянна шліфуюць веды, дабіваючыся стопрацэнтнай цікавасці навучэнцаў і да прадмета, і да сябе.

Валерый Браніслававіч кіруе лясным тэхнікумам ужо больш за 18 гадоў. За час яго кіраўніцтва ў тэхнікуме склалася мноства цудоўных традыцый.

Алег Іванавіч працуе ў тэхнікуме ўжо больш як 30 гадоў. Сваёй адкрытасцю, добразычлівасцю, кампетэнтнасцю, абаяльнасцю ён прыцягвае да сябе сэрцы супрацоўнікаў і навучэнцаў тэхнікума. Маладыя выкладчыкі заўсёды могуць разлічваць на яго дапамогу і добрую параду.

Выхаванцы тэхнікума не памыліліся: Валерый Браніслававіч і Алег Іванавіч – педагогі-майстры, выдатнікі вучэбна-выхаваўчай працы.

Усе астатнія педагогі тэхнікума – "харашысты". 15 выкладчыкаў (42,5 працэнта) атрымалі адзнаку 8 балаў. Гэта Н.Бранавец, Т.Курапацкая, В.Ціхановіч, Э.Катовіч, Н.Наваенка, А.Ананенка, Е.Башлыкова і інш. Гэтыя выкладчыкі – яркія асобы, якія ўмела спалучаюць патрабавальнасць і добрае стаўленне да сваіх вучняў. У сваёй дзейнасці яны творча прымяняюць у цеснай узаемасувязі педагагічныя веды, педагагічны вопыт і педагагічную тэхніку на аснове любві і павагі да вучняў. Кожны з іх можа ганарыцца сваімі дасягненнямі ў педагагічнай дзейнасці. Яны годна вытрымалі экзамен у сваіх вучняў і атрымалі "сярэбраныя медалі".

Прыемна ўсведамляць, што нашы навучэнцы любяць нас і цэняць. Бо ніводзін педагог не атрымаў адзнакі ніжэй за 4,5 бала. Для педагога няма лепшай узнагароды, чым высокая ацэнка вучня!

У гэтым месяцы тэхнікум святкуе свой васьмідзесяты дзень нараджэння. Да рэвалюцыі, у 1912 годзе, у Полацку існавала школа лясных кандуктараў, якая стала правобразам Полацкага лясного тэхнікума, які адкрыўся ўжо ў лістападзе 1921 года. За час яго існавання падрыхтавана больш як 16000 спецыялістаў сярэдняга звяна для лясной гаспадаркі, не атрымана ніводнай рэкламацыі аб няякаснай падрыхтоўцы выпускнікоў.

80-гадовы юбілей калектыў тэхнікума сустракае з гонарам за выдатна падрыхтаваныя кадры і, што галоўнае, працягвае працаваць з надзеяй, што будучыя спецыялісты падтрымаюць добрую славу навучальнай установы.

**Наталля ЗЮЗЕЛЕВА, педагог-псіхолаг тэхнікума.**

# Паэзія – у будзённым

***Валянцін Сямёнавіч Ігнацьеў 25 гадоў працуе ў сярэдняй школе № 2 Барысава настаўнікам выяўленчага мастацтва. Дзякуючы яму дзеці любяць маляваць. Яны чуйныя да хараства. Але важна дапамагчы вучням не страціць пачуцця прыгожага, навучыць бачыць паэзію ў будзённым.***

Валянцін Сямёнавіч упэўнены, што знаёмства з навакольным светам не можа быць абмежавана толькі назіраннем. Трэба чытаць шмат мастацкай літаратуры, разглядваюць ілюстрацыі, наведваць выставы, музеі, кіно, тэатр. Гэта ўзбагачае ўражанні, удакладняе ўяўленні. Настаўнік знаёміць дзяцей з творамі мастацтва, з культурай і звычаямі розных народаў, з прыродай розных краін. Бо выяўленчая дзейнасць аказвае моцны ўплыў на фарміраванне асобы, садзейнічае развіццю творчых здольнасцей, самастойнасці і актыўнасці.

Валянцін Сямёнавіч – таленавіты выхавальнік, ён пастаянна шукае новыя формы работы з вучнямі. Прачытана новая кніга – і ўсе дзеці захоплена малююць сцэны, якія іх найбольш уразілі. Удалыя працы – на выставу. В.С.Ігнацьеў лічыць, што майстэрства настаўніка ў тым, каб тактоўнай парадай дапамагчы вучням і, не скоўваючы іх ініцыятывы, кіраваць работай. Не менш важна адкрыць перад дзецьмі дзверы ў свет цудоўнага, выхаваць прагу да самастойнай творчай працы, развіць пачуццё калектывізму і працавітасці, заахвоціць яшчэ глыбей вывучаць гісторыю беларускага народа, свайго роднага горада, актыўна ўдзельнічаць у жыцці школы.

– Каб увайсці ў свет дзяцей, – лічыць Валянцін Сямёнавіч, – трэба іх вельмі любіць, размаўляць з імі сур'ёзна, шчыра, як з роўнымі, і наогул адмовіцца ад тону перавагі. Калі вы здолееце ўвайсці ў гэты свет, вы зможаце паўплываць на фарміраванне дзіцячай душы, выхаваць у ёй лепшыя чалавечыя якасці. А для сябе адкрыеце сакрэт вечнай маладосці.

На традыцыйнае пытанне пра планы на будучыню В.С.Ігнацьеў адказаў без ваганняў:

– Праца з дзецьмі. Яе ні з чым нельга параўнаць. Я шчаслівы, што абраў прафесію настаўніка.

**Святлана СМОЛЬСКАЯ.**

# Спакой ім толькі сніцца

Калісьці Ірына Паўлаўна Сакавец была загадчыцай дзіцячага сада № 24 Барысава. Працавала творча, старалася ўнесці ў работу выдумку, тагачаснае дашкольнае кіраўніцтва не бачыла разумнага, творчага кіраўніка. Пайшла на пенсію. Стала настаўніцай польскай мовы сярэдняй школы № 20. І зноў творчая натура ўзяла верх. Вучыць дзяцей не толькі польскай мове, вучыць польскай культуры: песням, танцам, вершам. Яе дзеці заўсёды ведаюць больш, чым патрабуе праграма, яны пазнаёміліся з гісторыяй і геаграфіяй Польшчы, ім блізкі і зразумелы польскі народ.

Кожнае лета Ірына Паўлаўна праводзіць дні польскай культуры, фестывалі, возіць на аздараўленне і лячэнне дзяцей у Польшчу. Гэтая энергічная пані Ірэна робіць усё магчымае і немагчымае, каб дзецям з ёй было добра, весела, цікава, утульна, каб яны дасканала валодалі вуснай мовай і ведалі культуру Польшчы.

У Ірыны Паўлаўны двое сыноў і дачка. Сваю дачку яна навучыла польскай мове і перадала ёй багаты вопыт узаемін з нашымі заходнімі суседзямі. У пані Ірэны вялізныя планы на будучыню. Мала таго, што яна ў Барысаве кіруе Саюзам палякаў, яна марыць стварыць Дом Польшчы, каб у ім сустракаць польскіх гасцей, адзначаць Каляды, Вялікдзень і іншыя нацыянальныя святы, каб у гэты дом маглі прыйсці беларускія палякі і проста пасядзець, пагаварыць за кубкам добрай гарбаты.

Людміла Леанідаўна Гудзіліна – настаўнік-лагапед Стара-Барысаўскай школы-інтэрната, выхавальніца, а яшчэ – актрыса народнага тэатра "Бідарыс". Сыграла мноства роляў самых розных па характары. Выступала ў п'есах і спектаклях, у дзіцячых казках. Яна ўпэўнена: няма другарадных роляў, – усе галоўныя, іх трэба не сыграць, а годна пражыць, як свае. Людміла Леанідаўна сама шые касцюмы для спектакляў, рыхтуе рэквізіт, афармляе спектаклі ў народным тэатры "Відарыс", у дзіцячым тэатры "Нюанс" сярэдняй школы № 7 (кіраўнік З.М.Міхалькевіч). Для яе афармленне спектакля – гэта захоплены пошук стылю, атмасферы. Для гэтага яна перачытвае горы літаратуры, праслухоўвае пласцінкі, запісы старадаўніх песень, рамансаў, корпаецца ў архівах, разглядвае старыя альбомы, часопісы, кнігі. Захапленне тэатрам дапамагае Людміле Леанідаўне ў яе паўсядзённай педагагічнай рабоце ў школе-інтэрнаце. Яна ўпэўнена:

–Трэба ўзвышаць душу чалавека мастацтвам, бо яно невычэрпнае. У першую чаргу сваю, калі іграеш на сцэне – у надзеі, што адгукнецца душа таго, хто глядзіць на цябе.

Я распавяла пра дзвюх жанчын. У іх розныя лёсы і прафесіі, яны не падобныя па характары, але іх лучыць тое, што яны любяць людзей, нясуць ім свой талент. Яны – неабыякавыя, хочуць зрабіць жыццё лепшым, святлейшым. Яны – нястомныя, імкнуцца несці людзям дабро. І сапраўды: спакой ім толькі сніцца.

**Святлана СМОЛЬСКАЯ.**

# "Я не імкнуся павучаць бацькоў..."

***Ганну Іванаўну Хахлову я ведаю даўно. Справе навучання і выхавання яна аддала без малога 30 гадоў. Калі толькі з паслужным спісам Ганны Іванаўны пазнаёміцца, зразумееш: маем справу з вопытным кіраўніком і спецыялістам у галіне адукацыі.***

Ганне Іванаўне Хахловай давялося быць выкладчыцай матэматыкі ў вячэрняй школе, затым - намеснікам дырэктара гэтай жа ўстановы, потым было загадванне раённым метадычным кабінетам, была метадыстам, інспектарам Бярэзінскага раённага аддзела адукацыі... І вось ужо больш за 10 гадоў з'яўляецца намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы №3 Беразіно.

– Ганна Іванаўна сапраўды сумела стаць у нашым педагагічным калектыве Настаўнікам настаўнікаў. Хахлова прыйшла да цябе на ўрок, вядзе праверку ведаў вучняў, кантралюе тваю работу, а ты спакойны, бо рэфлексію тваёй дзейнасці зробіць кампетэнтны, інтэлігентны калега. Так, я не памыліўся – калега, а не правяральнік, – колісь расказваў мне настаўнік гісторыі з сярэдняй школы №3 Беразіно Уладзімір Міхайлавіч Сакаў.

А пазней, ад Раісы Міхайлаўны Фешчанка, намесніка дырэктара сярэдняй школы №3 я пачуў:

– Многіх з нас, пачынаючых упраўленцаў школы, Ганна Іванаўна вучыла майстэрству кіраваць. Аналізаваць урок, праводзіць педсавет, ладзіць метадычную работу з педагагічнымі кадрамі, умець аналізаваць і прагназаваць – гэтаму мы вучыліся ў сур'ёзнага і дасведчанага практыка. Дабрыня і шчырасць, сардэчнасць і мацярынскія якасці – тое, што робіць Ганну Іванаўну прыцягальнай, любімай, жаданай.

Методыка дзейнасці завуча Хахловай такая, каб ніколі не паказваць сваё "Я", справу ладзіць толькі сумесна з педагогамі, вучнямі, поспехі педкалектыву дзяліць на ўсіх. Кожнаму аддаецца належнае за заслугі.

У цеснай сувязі з адміністрацыяй школы ладзіць Хахлова для педагагічнага калектыву праблемныя семінары, круглыя сталы, практычныя канферэнцыі, тэматычныя педсаветы, арганізоўвае вечары-партрэты педагогаў-майстроў сярэдняй школы №3.

Трэба сказаць, што пры непасрэдным удзеле Ганны Іванаўны сярэдняя школа №3 Беразіно ўзяла ўпэўнены курс на дыферэнцыравана-індывідуальнае навучанне. Гэта яна камплектавала і групавала профільныя класы, групы паглыбленага вывучэння прадметаў, наладжвала супрацоўніцтва з ВНУ сталіцы. Ганна Іванаўна стаяла ля вытокаў стварэння патрыятычнага класа. Яна – на баку той ідэі, што школа стане тады прыцягальнай для бацькоў, калі навучанне будзе якасным, выніковым. За апошнія пяць гадоў да 70 працэнтаў вучняў выпускных класаў паступае ў выбраныя ВНУ, перамагае не толькі на абласных, але і на рэспубліканскіх алімпіядах. Ганна Іванаўна стварае творчыя групы педагогаў з ліку лепшых, якія арганізоўваюць работу з таленавітымі і адоранымі дзецьмі.

Ды і сама яна – вопытны матэматык. Імкнецца праводзіць свае ўрокі нетрадыцыйна, выкарыстоўваючы гульнявыя формы навучання. Урокі-эстафеты, урокі-залікі, урокі-падарожжы, інтэлектуальныя гульні тыпу "Шчаслівы выпадак", "Поле Цудаў", – гэта робіць урокі прыцягальнымі для дапытлівых школьнікаў.

Шмат увагі Ганна Іванаўна аддае рабоце з сем'ямі, з бацькамі і апекунамі вучняў. Методыка ўзаемаадносін з бацькамі – няхітрая, але выніковая, "як ты да бацькоў, так і яны да цябе".

– Я ніколі не імкнуся павучаць бацькоў, чытаць ім натацыі, я раю бацьку, станаўлюся з ім на адну пазіцыю, сумесна выхоўваю, іду разам з бацькам па шляху "лячэння блуднага сына". Педагог і бацька – адно цэлае, тыя, хто імкнецца "рабіць" вучня лепшым, прыгожым душой і думкамі.

Вось чаму бацькі з ахвотай ідуць да Ганны Іванаўны, раяцца з ёю, давяраюць самае патаемнае. Міхаіл Пятровіч Маркоўскі (сын Павел закончыў 11 класаў) расказвае мне:

– Гэта менавіта Ганна Іванаўна зарыентавала нашага сына пайсці ў лётны каледж, калі Павел вагаўся – на выбар было аж 4 ВНУ. Не адну гутарку Хахлова правяла з сынам, калі той зразумеў, што авіяцыя – яго хлеб, яго прызванне. Сёння – Павел курсант авіяцыйнага каледжа і вельмі ўдзячны Ганне Іванаўне за сяброўска-мацярынскую падказку.

Любіць сваю працу Хахлова, бо лічыць, што навучанне і выхаванне моладзі – пачэсны абавязак дарослых. "На тое яны і маладыя, каб памыляцца і спатыкацца. А мы, дарослыя, тым больш прафесіяналы, абавязаны вучыць, "папраўляць", карэкціраваць асобы юных" – гэта і ёсць жыццёва-педагагічнае крэда Ганны Іванаўны Хахловай.

...Штогод летам у госці да Ганны Іванаўны прыязджае сястра Марыя Іванаўна з Санкт-Пецярбурга. Дырэктар сярэдняй школы №249 Санкт-Пецярбурга, заслужаная настаўніца Расіі, вопытны ўпраўленец і спецыяліст адукацыі – Марыя Іванаўна шчодра дзеліцца вопытам работы з сястрой. З захапленнем ленінградка "слухае" вопыт малодшай сястры і не раз адзначае: "Ой, Аня, дык вы ж нас абагналі..." Бывае, сяцёр паблізу няма, тады кожны скажа: "Шукайце іх у альтанцы Сухамлінскага. Яны там адна адну вучаць!" Так, вопытным сёстрам-педагогам ёсць аб чым пагаварыць, ёсць над чым паразважаць, паспрачацца. У вёсцы Міхалёва, на бацькаўшчыне, сёстры і праводзяць сумесна апачынак, а "альтанкай Сухамлінскага" яны назвалі ўтульную старэнькую верандачку сярод саду, якую колісь пабудаваў для будучых настаўніц бацька.

Мінулае лета навяло Ганну і Марыю на думку падрыхтаваць да друку сумесны метадычны дапаможнік па арганізацыі работы з педагагічнымі кадрамі "Хай гэта будзе і рукапісны зборнік, але мы з Ганнай прадставім новыя, выверaныя жыццём напрацоўкі па метадычнай рабоце з педагогамі, якія працуюць творча. Сваю задуму мы здзейснім у наступнае лета...", – расказвала мне Марыя Іванаўна.

Я ж паабяцаў госці з Пецярбурга выдаць метадычны дапаможнік у Мінскім абласным ІПК, бо для ўпраўленцаў нагаданая кніжка – доўгачаканая.

Мне падумалася: сябры, больш у нашых установах адукацыі было б гэткіх апантаных падзвіжнікаў, як Ганна Іванаўна, дык і школьная рэформа не давала б прабуксовак і дзятве нашай жылося б весялей, а школа была б для іх домам Радасці, Дабрыні, Міласэрнасці.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ, старшы выкладчык кафедры ўпраўлення Мінскага абласнога ІПК.**



У сярэдняй школе № 2 горада Бярозы Ірыну Уладзіміраўну Пабожную ведаюць як добрага педагога, цудоўнага знаўцу дзіцячых душ. Працуе яна ў гэтай школе больш за дзесяць гадоў. Вядзе ўрокі геаграфіі ў шостых, сёмых і восьмых класах. А ў 5 "Б" з'яўляецца класным кіраўніком.

Ірына Уладзіміраўна шмат працуе над сабой. Стараецца выхаваць у вучняў любоў да геаграфіі. Яна стварыла эколага-краязнаўчы гурток "Мой край", ладзіць разам з дзецьмі экспедыцыі па раёне. Рыхтуе экспедыцыю і за межы Бярозаўшчыны.

Калектыў школы аказаў Ірыне Уладзіміраўне давер, абраўшы дэлегатам II з'езда настаўнікаў. Цяпер яна імкнецца ўвасобіць у жыццё выснаваныя з'ездам тэзісы.

**Іван АСКІРКА.**

НА ЗДЫМКУ: настаўніца сярэдняй школы № 2 горада Бярозы Ірына Уладзіміраўна Пабожная.

**Фота аўтара.**

